# Голас Радзімы

№ 6 (2148)
8 лютага 1990 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



## СЛУЖБА МІЛАСЭРНАСЦІ

Колькі чалавек у Беларусі сёння зведваюць патрэбу ў дапамозе грамадства? Дзесяткі? Сотні? Тысячы? Тысячы! Сярод іх інваліды, дзеці, хворыя, адзінокія пенсіянеры. Апошняя катэгорыя ўзята пад патранаж службы міласэрнасці Таварыства Чырвонага Крыжа, яе медыцынскіх сёстраў, малодшых сёстраў міласэрнасці, памочнікаў па дагляду дома, людзей спагадлівых, добрых, клапатлівых. Яны сталі сапраўднай апорай у жыцці для соцень і соцень адзінокіх старых, інвалідаў. Летась 740 медсёстраў міласэрнасці абслугоўвалі больш за 25 тысяч чалавек. Гэта вялікая і цяжкая праца. Добра вядома, што да хворага ці старога чалавека нават псіхалагічна прыстасавацца, знайсці падыход няпроста. Можа, таму Чырвоны Крыж зведвае цяжкасці пры наборы на гэтую работу маладых дзяўчат. Добра вядома, што любіць і шкадаваць усё чалавецтва лягчэй, чым аднаго канкрэтнага, якому патрэбна канкрэтная дапамога. Ды і фізічна праца не з лёгкіх. Няма добрага абсталявання, не хапае транспарту. Вось і праходзіць медсястра за змену кіламетры, бегае з паверха на паверх. А заработная плата таксама пакідае жадаць лепшага: 100—120 рублёў — хіба гэта грошы ў наш час? І хаця ніхто не адмаўляе вострай неабходнасці палепшыць аплату працы сёстраў міласэрнасці, на шчасце, не ўсё пакуль яшчэ вымяраецца грашыма. А каб неяк ажывіць справу дабрачыннасці, грамадства прыкладае намаганні, шукае новыя шляхі і формы работы Чырвонага Крыжа, далучае да гэтай высакароднай справы моладзь, мясцовыя ўлады. І вось першыя вынікі. У Беларусі летась працавала больш за 400 атрадаў міласэрнасці на грамадскіх пачатках. Па месцы жыхарства пачалі стварацца спецыяльныя пакоі медыка-сацыяльнай дапамогі. Там вядуць прыём урачы, медсёстры адпускаюць працэдуры. А па вечарах старыя збіраюцца тут нібы ў сваім клубе: пасядзяць, чаю пап'юць, пагавораць. Асабліва важна гэта для сельскай мясцовасці, дзе складаней дабрацца да бальніцы, паліклінікі, а «забытых» старых па вёсках, на жаль, сёння вельмі многа.

Развіваецца і такая форма, як арганізацыя Таварыствам Чырвонага Крыжа бясплатных дабрачынных абедаў для адзінокіх непрацаздольных гараджан. А для тых, хто не ў стане самастойна рухацца, абеды дастаўляюцца дахаты. Мы заўсёды памятаем, што ніхто не павінен быць забыты за зачыненымі дзвярамі сваёй кватэры.

**І. БУРАНКОЎ,**
**інспектар-урач**
**Таварыства Чырвонага**
**Крыжа БССР.**

**НА ЗДЫМКУ: Алена ЮБКО — медыцынская сястра службы міласэрнасці Чырвонага Крыжа ў Заводскім раёне Мінска. На яе ўчастку 27 чалавек. У дзень яна робіць па 8—10 візітаў. Здымак зроблены ў час наведання адзінокай пенсіянеркі Соф'і ЛАПО.**

**Фота С. КРЫЦКАГА.**

## ГУТАРКА З ПАРТЫЙНЫМ РАБОТНІКАМ

# «ВЫЗНАЧЫЦЬ СВАЮ ПАЗІЦЫЮ БЫВАЕ НЯПРОСТА...»

**Адной з самых гарачых праблем на сёння стала вызначэнне ролі Камуністычнай партыі ў прагрэсіўных перабудовачных працэсах. Дыяпазон меркаванняў вельмі шырокі: ад перакананага «партыя — авангард» да непахіснага «партыя — тормаз». А ўжо па колькасці прэтэнзій да іх партыйныя работнікі абагналі, здаецца, нават кааператараў. Наш карэспандэнт гутарыць з першым сакратаром Валожынскага раённага камітэта партыі Канстанцінам ХВЯНЬКО.**

*— Канстанцін Канстанцінавіч, на пачатку размовы хачу задаць пытанне, якое ў пэўнай ступені вызначыць яе далейшы напрамак: ці лічыце вы самі сябе палітычным лідэрам раёна?*

— Абралі мяне першым сакратаром раённага камітэта партыі ў 1985-м — пераломным для нашай краіны годзе. Нейкі вопыт партыйнай работы ўжо меў. Сам я з-пад Нясвіжа, пасля інстытута механізацыі сельскай гаспадаркі крыху працаваў галоўным інжынерам калгаса. Менавіта гаспадарчая работа дала немалы вопыт работы з людзьмі, з вялікімі калектывамі, дазволіла пабачыць жыццё сялян нібы знутры. І ўсё ж, калі пачаў працаваць першым сакратаром райкома партыі, палітычным лідэрам сябе не адчуваў. Бачыў, што не стае вопыту. Самі разумееце, столькі праблем трэба было вырашаць — палітычных, эканамічных, кадравых, сацыяльных. І вырашаць кваліфікавана, высокапрафесіянальна.



Але псіхалагічна я спасцігаў новую для сябе справу з вялікай надзеяй: у Маскве Гарбачоў пачынаў перабудову, а я з яго ідэямі быў поўнасцю салідарны.

Палітычны вопыт прыходзіў паступова, адначасова з тым, як глыбей і глыбей унікаў у работу. Што там утойваць: і гузы набіваў. Эканамічна раён узнімаўся цяжка, працэс яго ўмацавання ішоў няпроста, а ў такой сітуацыі і я асабіста, і раённы камітэт партыі без памылак не абышліся.

Ці адчуваю сябе палітычным лідэрам зараз? Тое, што з кіраўніка ўвогуле ператварыўся ў кіраўніка палітычнага, — магу сказаць з упэўненасцю. А гэта, лічу, ужо нямала. Што ж датычыцца лідэра, то тут больш складана. І вось чаму. Працэсы дэмакратызацыі ў нас ідуць надзвычай хутка, падзеі ў краінах Усходняй Еўропы настолькі багатыя палітычнымі навацыямі, што патрабаванні да партыйнага работніка ўзрастаюць усямерна, і ўзрастаюць літаральна па днях. Гэта ў сваю чаргу патрабуе перагляду ўласных поглядаў на вельмі многія рэчы, пераацэнкі каштоўнасцей, разбурэння стэрэатыпаў у мысленні і рабоце, якія складваліся гадамі і яшчэ нядаўна лічыліся непарушнымі. Усё гэта, як і ў кожнага чалавека, ідзе няпроста.

Таму на ваша пытанне я адказаць не здолею. Пераацаніць сябе баюся, ды і нясціпла гэта, але і недаацэньваць не хочацца. Давайце пачакаем выбараў у народныя дэпутаты і раённай справаздачна-выбарнай партыйнай канферэнцыі. Калі буду абраны дэпутатам і застануся першым сакратаром — значыць, адказ на ваша пытанне будзе станоўчы.

*— Ну а што вы можаце паставіць сабе ў заслугу пасля амаль пяці гадоў кіраўніцтва раённай партарганізацыяй?*

— Так, пасля пяці гадоў работы ўжо час падводзіць вынікі... Галоўным лічу тое, што нам удалося стварыць корпус здольных, з высокім інтэлектуальным і арганізатарскім патэнцыялам кіраўнікоў. Гэту думку пацвярджаюць тыя вынікі, што дасягнуты і ў эканоміцы раёна, і ў яго сацыяльнай сферы.

*— Дарэчы, пра кадры. З якой катэгорыяй людзей вам цяжэй за ўсё працаваць?*

— Са спецыялістамі сярэдняга звяна. Калі я пачынаў працаваць у раёне, гэта была такая глыба. Выводзіць яе з застою даводзілася вельмі доўга і цяжка. Вялікімі намаганнямі даваліся зрухі літаральна ва ўсім — арганізацыі работы, выкарыстанні сучасных тэхналогій, культуры вытворчасці. Гэта было адно з тых звенняў ланцуга, якое рвалася пры спробах надаць гаспадарчай машыне новыя абароты, павярнуць яе на рэйкі інтэнсіфікацыі.

Сёння нашыя спецыялісты сярэдняга звяна мысляць больш сучасна, шырока, з імі можна вырашаць даволі складаныя задачы. Хаця да поўнага задавальнення іх работай яшчэ далёка.

*— З кім раіцеся пры прыняцці рашэнняў?*

— Круг дарадчыкаў вельмі шырокі. У залежнасці ад праблемы раюся з кіраўнікамі прадпрыемстваў, калгасаў, работнікамі апарату, проста з жыхарамі горада і раёна. Калі трэба вырашыць асабліва важнае і прынцыповае пытанне, не-не ды і выкарыстоўваем ананімнае анкетаванне кіраўнікоў і спецыялістаў.

Здараюцца моманты, калі патрэбна імгненная парада чалавека, якому поўнасцю давяраю. Тады звяртаюся да старшыні выканкома раённага Савета народных дэпутатаў Сяргея Маляўскага: яго слова цаню вельмі высока і ўдзячны, што падзяляе мае цяжкасці.

*— Бадай, кожнаму чалавеку ўласціва праблемамі, што ўзнікаюць на рабоце, дзяліцца ў сям'і. Ці робіце вы гэта?*

— Жонка мяне нярэдка папракае: маўляў, пра навіны ў раёне даведваецца ці не апошняй. Але я прытрымліваюся такой пазіцыі: жонцы хапае сваіх праблем (яна загадвае дзіцячым садзікам), дык навошта ўзвальваць на яе плечы яшчэ і мае?

*— Зараз вы, як функцыянер кіруючай і адзінай партыі, адчуваеце сябе, можа, і не так камфортна, як яшчэ пяць гадоў назад, але ўсё-такі нядрэнна: на ваша становішча, ролю ў раёне не замахваюцца палітычныя праціўнікі, іх проста няма. Як вы ставіцеся да шматпартыйнасці?*

— На гэтае пытанне я не магу адказаць па простай прычыне: не жыўшы ва ўмовах шматпартыйнасці, мы не ведаем, што гэта такое, якія перавагі і заганы ў нашых умовах яна можа мець.

Але, мяркую, працэс дэмакратызацыі грамадскага жыцця і ў краіне, і ў нашай рэспубліцы прывядзе да стварэння шматпартыйнай сістэмы. Гэта натуральна.

Іншая справа, што на даным этапе развіцця грамадства нават існаванне дзвюх, не кажучы ўжо пра большую колькасць партый, згубна ўздзейнічала б на працэсы перабудовы, абнаўлення. Думаю, тут маю рацыю яшчэ і таму, што мы зараз перажываем перыяд дзіцячай хваробы дэмакратыі. Зараз столькі перахлёстаў, эмоцый, лозунгаў, і ў такой сітуацыі можна нарабіць палітычных памылак. І пакуль патрэбна сіла, якая б аб'ядноўвала ўсіх нас на перабудову. Будзем рэалістамі: акрамя КПСС такой сілы ні ў краіне, ні ў Беларусі сёння няма.

*— А што вы думаеце пра 6-ты артыкул Канстытуцыі СССР, які замацоўвае кіруючую ролю КПСС у савецкім грамадстве? Усё шырэй і шырэй гучаць галасы пра немэтазгоднасць яго захавання ў абноўленай дэмакратычнай дзяржаве.*

— Я шмат разважаў на гэтую тэму, не адзін раз дыскутавалі пра 6-ты артыкул з калегамі, з жыхарамі раёна ў час паездак у калгасы, на прадпрыемствы. Асабіста я згодны з Гарбачовым, які гаворыць, што названае пытанне не вартае абм[illegible]вання і вырашэння ў ду[illegible] дэмакратыі, але рабіць гэта трэба спакойна, узважана і натуральна.

Вакол 6-га артыкула Канстытуцыі зараз нямала палітычнай валтузні: хто-ніхто на патрабаванні [illegible]ладнай яго адмены імкн[illegible]а набраць больш ачкоў, задаволіць свае амбіцыі. Але ці ёсць ад гэтага карысць усяму грамадству? Ці трэба ў спешцы дыскрэдытаваць партыю, якая пачала перабудову і настойліва вядзе яе? Не трэба вырываць 6-ты артыкул з кантэксту перагляду ўсёй Канстытуцыі. Яна патрабуе істотных змен, і, як вядома, над гэтым працуе спецыяльная камісія на чале з Гарбачовым. Думаю, што ў працэсе стварэння новай Канстытуцыі ёсць сэнс адмяніць і 6-ты артыкул. Тады гэта будзе ўспрымацца натуральна, як заканамерны працэс дэмакратызацыі і дзяржавы, і партыі.

Больш таго, лічу, што камуністам краіны на сваім XXVIII з'ездзе трэба самім прапанаваць выключыць 6-ты артыкул з Асноўнага Закона. Гэта будзе правільна ва ўсіх адносінах.

*— Калі гавораць пра неабходнасць абнаўлення самой КПСС, то вельмі часта адной з праблем, якую варта тэрмінова вырашаць, называюць быццам бы ненармальныя адносіны паміж вышэйшымі і ніжэйшымі органамі партыйнага кіраўніцтва. Маўляў, гэтыя адносіны грунтуюцца на адміністрацыйным націску зверху, ігнараванні думкі ніжэйшых партыйных камітэтаў. Ці адчуваеце на сабе такі націск вы асабіста і члены Валожынскага райкома?*

— Калі гаварыць шчыра, то ў 1985-м, 1986-м такі націск, умяшанне ў работу яшчэ адчуваліся. Але калі я аналізую той перыяд сваёй работы, прыходжу да парадаксальнай высновы: мне тыя ўмяшанні часта ішлі на карысць. Я ўжо казаў, што вопыту не ставала, раёна не ведаў, таму без падказак, а то і прамых указанняў працаваць было б, відаць, складаней.

Зараз жа і мне, і маім калегам у раёне прадастаўлена поўная свабода для творчай дзейнасці.

*— Цікава, Канстанцін Канстанцінавіч, як вы дзеліце ўладу ў раёне са старшынёй райвыканкома?*

— Няма калі дзяльбой займацца, работы вельмі многа. Я перакананы, што райком павінен займацца палітычнымі справамі, а Савецкая ўлада — канкрэтнымі пытаннямі жыццезабеспячэння раёна і горада, вытворчай дзейнасцю калгасаў, саўгасаў, прадпрыемстваў.

Але тут не ўсё так проста, як можа падацца на першы погляд. Дзесяцігоддзямі і ў насельніцтва, і ў кіруючых кадраў выхоўвалася правіла: гаспадар у раёне — райком, а райвыканком служыць для выканання яго «мудрых» рашэнняў. І так сапраўды было! Ясна, што гэты перакос народжаны каманднa-бюракратычнай сістэмай. Тут страчаны першапачатковы сэнс паняццяў «улада», «партыя», «дзяржава». Нават зараз, на пятым годзе перабудовы, многія ніяк не могуць пераканаць сябе, зразумець, што не функцыя райкома займацца рамонтам электрасетак альбо асфальтаваннем вуліц. Гэта яшчэ адзін прыклад таго, як няпроста ідзе перабудова.

*— Зараз набірае тэмп барацьба за мандаты народных дэпутатаў БССР і мясцовых Саветаў. Як вы лічыце, ці атрымаюць перамогу на выбарах камуністы?*

— Трэба шчыра прызнаць: падзеі ў Прыбалтыцы, у Закаўказзі пасеялі ў часткі камуністаў, у тым ліку і ў партыйных работнікаў, няўпэўненасць. І сапраўды, бывае няпроста вызначыць сваю пазіцыю па многіх вельмі спрэчных пытаннях. Але статыстыка сведчыць: пераважная большасць кандыдатаў у народныя дэпутаты БССР і мясцовых Саветаў — члены Камуністычнай партыі. Платформу Кампартыі Беларусі да выбараў людзі падтрымліваюць, таму, перакананы, перамогу на іх атрымаюць менавіта камуністы.

**Інтэрв'ю ўзяў Яраслаў ЧАПЛЯ.**

# ЗАБАСТОЎКІ?.. УЛЬТЫМАТУМ?..

**ТАКОГА яшчэ не было: аператыўна-следчы састаў Мінскай міліцыі адмовіўся атрымліваць зарплату і звярнуўся ў Міністэрства ўнутраных спраў БССР з патрабаваннямі павысіць службовыя аклады з улікам інфляцыі, дыферэнцыравана ўзнагароджваць працу работнікаў крымінальнага вышуку, службы Барацьбы з раскраданнямі сацыялістычнай маёмасці (БРСМ), следчага апарату ў адпаведнасці з рэальнай нагрузкай, улікам кваліфікацыі і вопыту; для аховы правоў работнікаў міліцыі стварыць галіновы прафсаюз; умацаваць матэрыяльна-тэхнічную базу праваахоўных органаў, у бліжэйшы час правесці сустрэчу з прадстаўнікамі ўрада рэспублікі і ЦК КПБ, з тым каб неадкладна прыняць меры па сацыяльнай абароненасці, паляпшэнню працы і быту, матэрыяльнага становішча работнікаў міліцыі.**

**Што гэта: своеасаблівая забастоўка і ультыматум? Не, кожны з міліцыянераў менавіта цяпер, як ніколі, сабраны і выконвае свае службовыя абавязкі. Усе на сваіх пастах і ўчастках. Але ўсё ж што адбываецца? У размове з супрацоўнікамі Фрунзенскага раённага аддзела ўнутраных спраў удзельнічала больш за сто чалавек. Вось што давялося пачуць.**

**Супрацоўнікі міліцыі казалі, што ўжо стаміліся ад размоў пра павышэнне службовых акладаў. І вось яно адбылося. 20 студзеня людзі пайшлі за палучкай. Аказалася, што аператыўныя супрацоўнікі следства, вышуку і БРСМ, якім аклады павышаны з 1 студзеня (астатнім катэгорыям намечана правесці павышэнне зарплаты з ліпеня), атрымалі надбаўку ў сярэднім усяго на пяцьдзесят рублёў. Сёння службовы аклад оперупаўнаважанага крымінальнага вышуку складае 160 рублёў (было 110), участковага інспектара — 105. І справа не толькі ў зарплаце. Сітуацыя склалася крытычная: вопытныя, самыя кваліфікаваныя работнікі пакідаюць міліцыю, калі хваля злачыннасці дасягнула піка. На аднаго работніка следства прыпадае 100 спраў. Хто вытрымае такую нагрузку?**

**Было ўзнята і яшчэ адно пытанне. Уся нагрузка па барацьбе са злачыннасцю кладзецца на райаддзелы. Але існуе і гарадское Упраўленне ўнутраных спраў, дзе непамерна раздутыя штаты і чыноўнікі ў міліцэйскай форме толькі перакладваюць з месца на месца паперкі, падлічваюць працэнты. Калі ліквідаваць лішнія кіраўніцкія звенні, то і фонд зарплаты можна было б павялічыць. Але чым больш размоў пра гэта, тым больш разбухае кіраўніцкі апарат.**

**У гэтыя дні ў райаддзелах горада пабывалі кіраўнікі Міністэрства ўнутраных спраў БССР, палітупраўлення, праваахоўных і адміністрацыйных органаў. Яны запэўнілі асабовы састаў у тым, што ўжо сёлета палепшыцца тэхнічная аснашчанасць аператыўна-вышуковых служб, за валюту закупляецца неабходнае абсталяванне, папоўніўся парк машын. Міліцыі дапамогуць працоўныя калектывы, фонд «Правапарадак», які, дарэчы, узнік па ініцыятыве Фрунзенскага райаддзела Мінска. Выказвалася думка, што людзі, якія носяць мундзіры і пагоны, не павінны скарыстоўваць такую форму пратэсту, не ўлічваючы да таго ж напружанасць становішча ў краіне. Тым больш, што пытанне аб прававой і сацыяльнай абароненасці абмяркоўваецца ў Вярхоўным Савеце СССР, дзе хутка будзе разгледжаны праект Закона аб савецкай міліцыі.**

**Застаецца дадаць, што зарплату міліцыянеры атрымалі.**

**У. ЛЕВІН.**

